№ 83 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7. Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 83 (175). Год II. Вільня, 16 кастрычніка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Антысэмітызм у Расеі.

## 15 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Флядрыі — агонь артылерыі рознай сілы. У Артуа англічане на шырыні 4 кіл. атакавалі вялікімі сілами між Арра і Камбрэ. На флангах яны адкінуты, ў цэнтры ворагі ўварваліся ў нашы лініі. У начы яны выкінуты адтуль.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Між далінаю Айет і Брэ і ў сярэдняй часьці Шмэн дэ Дам — вострые артылерыйскіе бітвы.

**Усходні тэатр.**

На астраві Эзэлі мы дайшлі шыбка ўдачы. Дзе ворагі прабавалі аказваць адпор, яны былі адбіты. Полуостраў адрэзан ад поўначы. Мы стаім перад Арэнсбургам, каторы гарыць, і ўходзім у усходнюю часць острава, адкуль расейцы шыбка пераходзяць на остраў Моон. Нашы мінаносцы ўварваліся ў праліў між Эзэлем і Даго і адагналі расейскіе марскіе сілы у Моонзунд.

---

Між Балтыцкім і Чорным морам без перамен.

ШТОКГОЛЬМ (В.Т.Б.). Новые весткі с Пецербурга пацьвярджаюць заяву „Нов. Вр.", што абарона острава Эзэля была ў англіцкіх руках.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Паводлуг заявы ваеннаго міністра, у нямецкіх опэрацыях проці острава Эзэля прынімалі учасьце 8 дрэдноўтаў, 12 лёгкіх крэйсэроў, 40 мінаносцаў і 30 судзен дзеля лоўлі мін. Ворагі здаўна прыгатаўляліся да гэтай опэрацыі і пр авялі яе з незвычайнай шыбкасьцю. Устрата Эзэля пазбавіла Расею панаваньня ў Рыжскай затоцы.

ШТОКГОЛЬМ (В.Т.Б.). Шведзкае вюро прэссы даносіць аб чысьленых дакумэнтах і заявах сьведкаў аб уціску жыдоў у Расеі. Паляўы суд засудзіў на сьмерць 34 салдатоў-жыдоў, у тым ліку 7 выдатных соцыал-дэмократоў. Шмат дзе былі сапраўдные жыдоўскіе пагромы.

«Русская Воля» пішэ, што народ усюды падбіваюць выступіць проці жыдоў. Нават у радзі раб. і салд. шырыцца чынны антысэмітызм. Калі на апошнім заседаньні хацеў прамовіць адзін жыд, дык яму крычалі: «Вон жыдоў! Ніхай кажэ расеец!»

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Маршалак генэральнаго сэкрэтарыаты Украіны апублікаваў заяву, што будучая палітычная ўласць утворыць асобную самабытную організацію, абнімаючы ўсю украінскую націю. Яна будзе мець сваіх дэпутатоў на мірнай конфэрэнціі.

ГЭЛЬСІНГФОРС (П.Т.А.). Аканчацельны рэзультат выбароў у фінляндзкі сейм: соцыалісты—92; буржуазны блок—61, аграры—25, шведы—21.

ТЫФЛІС (П.Т.А.). 13.Х. Тут адкрылася армянская нацыональная конфэрэнцыя, злажэная з больш чым 200 дэпутатоў з розных ваколіц.

БЭРЛІН. „Germania" пішэ: Праектуецца заснаваньне нямецка-польскаго таварыства дзеля заняцьця нямецка-польскімі адносінамі. Цэлы рад вядомых палітыкоў з розных абозаў разам з варшаўскімі палітыкамі ужо зрабілі падгатавіцельную работу.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ў паўночных водах ізноў затапілі 16.000 тонн.

---

*Вільня, 16 кастрычніка.*

Здарэньня цяпер прыходзяць адно за адным с такой шыбкасьцю, што тое, аб чым мы ўчора думалі, як аб нечым вельмі далёкім, становіцца сягоньня конкрэтным фактам. Да такіх фактоў належыць справа развязкі будучыны нашаго Краю.

Ужо пасьля заявы аўстрыяцкаго міністра заграгічных спраў, гр. Чэрніна, пацьвэрджэнай органам нямецкаго імперскаго канцлера, аб тым, што цэнтральные дзержавы ў гэты момант гатовы прыстаць на мір без аннэксій, павінно было стануць на чародзі пытаньне, што будзе з окупованымі Беларуска-Літоўскімі землямі. Справай гэтай, як відаць з газэтных вестак, заняліся нямецкіе парлямэнцкіе кругі, а таксама і імперскіе ўласьці.

Апавешчэны дэмократыей усяе Эўропы прынцып самаазначэньня нацыональнасьцей, бязспорна, павінен быць прынят у аснову развязкі нашай будучыны. А аб тым, у якім кірунку ідуць жаданьня народаў нашаго краю, гаворыць як наша мінуўшчына, так і сучасные дамаганьня грамадзянства.

Мінуўшчына гаворыць, што ўсе Беларуска - Літоўскіе землі, раздзеленые ваенным фронтам на дзьве паловы, становілі некалі незалежнае вольнае гасударство— Вялікае Княжэство Літоўскае. Гэтае гасударство жыло поўным і ўсестаронным самабытным жыцьцём, мело сваю палітычную, грамадзянскую, праўную і экономічна-гаспадарчую організацыю, — а раз наладжэнае жыцьцё яго, дапасованае да географічных, прыродных і экономічных варункоў, ішло сваім ходам нават і тады, калі наша бацькаўшчына утраціла сваю незалежнасьць. I вось, каб забасьпечыць як асновы ўсестароннаго самабытнаго развіцьця нашаго Краю, так і нацыональные правы многаміліённаго насяленьня яго, бязбожна ламаные панаваўшымі над намі чужынцамі, колішняя гасударственая організацыя павінна быць нам вернена у межах магчымасьці.

Гэтак кажэ мінуўшчына, гэтак кажуць і экономічна-гаспадарчые патрэбы нашай зямлі сягоньняшняго дня. Кажуць яны, што тая вялізарная гаспадарка, якую становіць Беларуска-Літоўскіе землі, ні пры якіх варунках не павінна быць разбіта: кожын раздзел суліць экономічную сьмерць для часьцей краю, каторые, утраціўшы вытворные сталецьцямі экономічные асновы быту, павінны былі-бы пачынаць тварыць новую організацыю свайго жыцьця пры незвычайна цяжкіх варунках, пры поўнай ваеннай руіне. Усе торговые дарогі, з якіх наш край карыстаў пры супольным гаспадарчым жыцьці: рэкі, чыгункі, шоссэ і грунтовые дарогі, кіраваўшыеся да супольных для ўсіх Беларуска-Літоўскіх зямель цэнтроў і торговых портаў, пры раздзелі аказаліся бы безкарыснымі, і іх трэбалоб ладзіць нанова. Усе ніці, якіе звязываюць па сягоньняшні дзень самые далёкіе куты нашай зямлі с сэрцам яе—Вільняй, былібы разорваны, і ўсё прышлося бы будаваць па новаму. А на гэткую работу ня хопіць ні ў беларусоў, ні ў літвіноў, ні ў пражываючых на абедзьвых этнографічных тэрыторыях палякоў і жыдоў ані мат'эр'яльных ані інтэлектуальных сіл, і разарваны на кускі некалі незалежны наш край пры такіх варунках ніколі не вярнуў бы сабе праўдзівай волі і цягнуўся-бы ззаду за чужынцамі.

Гэта гаварыло і сьвядомае грамадзянство нашай зямлі: Беларуска-Літоўскіе землі «прынамсі ў межах окупаціі», павінны станавіць самаятную гасударственую організацію. А пасьля рэволюціі ў Расеі, калі і там магутнай крыніцай пачаў біць беларускі рух, беларускае організованае грамадзянство ў межах окупаціі дапоўніло гэты кліч жаданьнем далучэньня усіх Беларускіх зямель да гэткай самабытнай дзержавы. I за гэта падала свой голас дэмократыя ўсіх нацыональнасцей сталічнаго места Краю, Вільні.

Мы верым, што ўсё гэта збудзецца. Паводлуг зусім пэўных вестак, якіе да нас дайшлі, цэнтральные дзержавы спагадліва адносяцца да нашых дамаганьнеў, а блізкая развязка пытаньня аб будучыне окупованых немцамі Беларуска-Літоўскіх зямель павінна даць доказ гэтаго.

---

## У Вільні і ваколіцах.

✕ **Памяці Максіма Богдановіча.** Сабраньне членаў Беларускаго Клюбу і музыкальна-драматычнаго кружка ў салі Клюбу адбылося ў гэту нядзелю. Быў прачытан рэфэрат, характэрызаваўшый творчасць памершаго песьняра, с чысьленымі літэратурнымі ілюстрацыямі, с праўдзівым артызмам дэклямаванымі п. Ф. Олехновічэм. Пасьля ў кароткіх словах паміналі М. Богдановіча неко льк

знаўшын яго асоб, падзяліўшыхся с сабраўшыміся сваімі успамінамі аб Богдановічу.

Сабраньне мело вельмі сымпатычны характэр і сабрало даволі многа гасьцей. Мім апошнімі былі такжэ прэдстаўнікі іншых краёвых нацыянальнасьцей.

× **На вёску.** Як вядома, Беларускі Камітэт памачы ахвярам вайны на мінулае лета паладзіў два прытулкі для дзяцей на вёсцы: адзін — у Чорным Боры, пад Вільняй, і другі—ў Кочанах, каля Яшун. У Чорным Боры знайшлі прыпынак каля 70 бедных дзяцей беларускіх, а ў Кочанах — каля 30, і ўсе яны праз лета акрэплі і фізычна і моральна. С прычыны цяжкіх экономічных варункоў жыцьця ў Вільні Беларускі Камітэт маніўся пакінуць усіх дзяцей на вёсцы і на зіму, каторая сёлета будзе асабліва цяжкая ў горадзі с прычыны недастачы апалу. Аднак, у Чорным Боры зрабіць гэтаго не ўдалося, бо тамака дом, дзе жылі дзеці, на жыцьцё зімой не падходзіць. Чорнаборскі прытулак з гэтай прычыны с прыходам халадоў прышлося распусьціць. Затое ў Кочанах, дзе жыць можна і зімой і памяшчэньне даволі абшырнае, прытулак астаецца на ўсю зіму. Апрыч дзяцей, праўёўшых тамака лета, камітэт паслаў у Кочаны ешчэ больш за 20 дзяцей—часьцю с Чорнаго Бору, часьцю з Вільні, і гэтак чысло дзяцей у Кочанскім прытулку дайшло значнай цыфры—каля 50, ня лічучы некольkiх бедных кабет, прыехаўшых туды разам з дзяцьмі.

× **Беларускіе школы ў Вільні.** Беларускі Камітэт пом. ахв. в. на апошнім сваім заседаньні разглядаў справу далейшай організацыі беларускіх школ у Вільні.

Дагэтуль, як вядома, Камітэт утрыліваў пяць народных школ: на Лукішках, Зьвярынцы, Антокалі, Зарэччы і на Острабрамскай вуліцы. Усе яны — аднакласные, значыць, кожная мела аднаго вучыцеля, каторы вёў тры групы дзяцей—паводлуг веку і падгатоўкі. Цяпер узнялася думка ад аднакласных перайсьці да двухкласных і дзеля гэтаго злучыць у вадно Лукішскую і Зьвярынецкую школу і Острабрамскую з Зарэчнай.

Думка гэта — вельмі ўдатная: яна дае вялікую карысць дзецям, бо ў кожным класе будзе свой асобны вучыцель і, значыць, можна будзе лепей наладзіць навуку. Поруч з гэтым пры гэткай рэорганізацыі Камітэт мог бы зберагчы шмат на апале і памяшчэньні. І трэба думаць, што устройство школ двухкласных будзе праведзено ў жыцьцё.

× **«Літоўская рада».** „Lietuvos Aidas" пішэ:

4 кастрычніка члены літоўскай рады сабраліся ў Вільні дзеля раздзелу работы. Апрацовывалі статут рады і радзіліся аб адносінах да розных нацыянальнасьцей. Офіцыальна рада пачне працаваць болей-меней праз месяц. Шукаюць адпаведнаго памяшчэньня дзеля заседаньнёў.

Прыватная нарада літоўскай рады падала нямецкім уласьцям абшырны мэмор'ял аб цяперашнім палажэньні Літвы.

× **Облігацыі местовай пазыкі.** Асобы, даўшые гропы на так-званую «местовую пазыку», прызываюцца явіцца да Stadthauptmann'a, Домініканская 3, пакой 29, дзеля атрыманьня облігацый ад 9 да 12 гадз. 16, 17, 18 і 19 верасьня.

× **Паніжэньне цаны хлеба.** Добрые зборы новаго ураджаю далі магчымасць паменшыць цану хлеба. Пачынаючы ад серады, 17 кастрычніка, расейскі фунт хлеба будзе каштаваць 22 фэн. замест 26 фэн.

Ад 10 кастрычніка, як вядома, кожын жыхар на сваю хлебовую карту апрыч 150 гр. хлеба будзе атрымліваць па 300 гр. бульбы. Порція гэта с прычыны шыбкаго ўсыханьня бульбы будзе ад лістапада паменшэна да 250 гр.

× **Плата за вадаправод.** Stadthauptmann апавешчае, што калі ў найбліжэйшые два тыдні ня будуць заплочэны гропы за карыстаньне з вадаправоду, дык для неаплаціўшых гропы яго зачыняць.

× **У акружным судзе.** Сын селяніна, Станіслаў Цывіліс, належаў да разбойніцкай хэўры, зложэнай бліска с 15 душ, каторая у красавіку г. г. напала на хутар Казіміра Башунаса і страшэннымі мукамі (палючы агнём пяткі Башунаса і жонкі яго) прымусіла сказаць, дзе схаваны гропы. Цывіліса злавілі толькі аднаго з усяе хэўры. Віленскі акружны суд за аружную напасць засудзіў яго на сьмерць.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 10—11 | +11° | + 5° |
| 11—12 | +13,5° | + 6,5° |
| 12—13 | +15,5° | + 4° |
| 13—14 | +14° | + 6,5° |

## З усяго Краю.

### Таргоўля скацінай.

Пад таргоўляй скацінай нямецкіе ўласьці разумеюць куплю і прадажу скаціны не дзеля сваей патрэбы і пасрэдніцтво ў гэтым.

БЕЛАСТОК. З незвычайнай сьмеласьцю зладзеі ў белы дзень уварваліся ў адну кавярню і укралі с кассы 6.000 „нямецкіх" рублёў і 200 марак. Крымінальная паліція у звязі з гэтай справай арэштавала ўжо некольki асоб.

На вуліцы Ясінаўцы выкрылі патайную алеярню з вялікім запасам ільнянаго семі.

БЕЛАСТОК. На Нова-Шоссэйнай вуліцы, ля вялікаго маста цераз чыгунку, адкрыта сушыльня бульбы. Думка, вызваўшая будоўлю гэтай сушыльні, ня новая: кожнаму гаспадару вядома, што ад вялікаго процэнту вады ў бульбе шмат яе глуміцца ад гніцьця і марозаў. А сушэная бульба можэ лежаць вельмі доўга і не дае ніякога ўбытку.

БЕЛАСТОК. Касса дзеля выдачы пазык пад расейскіе зберэгацельные кніжкі, аб каторай мы ў сваім часі пісалі, ўжо адкрылася. Паступіло на 37.000 марак паёў. Пазык выдано 72 на 31.000 м. Праз нэўтральные дзержавы расейскі гасударственны банк заявіў, што ён прызнае гэту організацію, толькі жадае акуратнаго кантролю.

БЕЛАСТОК. У аднэй краме на рынку тут адкрылася орыгінальная выстаўка дабрачынных марак на карысць жыдоўскаго нацыянальнаго фундушу дзеля колонізацыі Палестыны.

БЕЛАСТОК. У друкарні Лейбы Выгодзкаго былі арэштованы шасьцёра служачых, падрабляўшых карты на спажыўные прадукты. Іх вінавацілі ў надрукаваньні 2.000 картачэк. Выгодзкі і Заблудоўскі засуджэны на 1 год у вастрог, Бурштэйн—на 3 мес. Трое другіх аштрафованы.

ГРОДНЯ. „Grodn. Ztg." пішэ, што с прычыны набліжэньня зімы і патрэбы ўстаўляць вокны прыбыў сюды вагон шкла, каторае працаюць аптавіком.

Са складу тытуну Койнэра на Саборнай вуліцы укралі 20.000 марак і 6.000 „нямецкіх" рублёў.

САКОЛКА. Тут аснован жыдоўскі прытулак.

ГРЭБІНЫ, сакольск. пав. Селянін Адам Усіловіч за кражу 3 каней быў у сваім часі арэштован, але ўцёк з вастрогу, выламаўшы сьцяну. Селяне раз ўжо расправіліся з ім сваім судом, на каторым ён толькі прыпадкам выкруціўся ад сьмерці. Цяпер суд засудзіў яго на 4 гады у вастрог.

ВАРОНІЧЫ, васілішск. пав. Рафал Рамановіч у спорцы аб дзяліцьбе спадчыны цяжка раніў сакерай сваю братаву і пляменніка, разбіўшы апошняму чэрэп. Толькі цудам той не памёр. Рамановіч засуджэн на 5 гадоў у вастрог.

АЎГУСТОЎ. У тутэўшым павеці адкрываецца беларуская школа.

АЛЕКШЫЦЫ. Соня Кальмановіч забіла сваё няшлюбнае дзіця і тлумачыла гэта на судзе сваім цяжкім матэр'яльным палажэньнем. Суд прыняў пад увагу змягчаючые акалічнасьці і засудзіў яе на 6 месяцоў у вастрог.

СУВАЛКІ. С прычыны неасьцярожнасьці стэльмаха Владыслава В., пакінуўшаго у сваей хаці затопленую пэч, узняўся пажар, ад катораго кватэра выгарэла. Апрыч гэтай шкоды, стэльмаха аддаюць пад суд за недбаласць.

ФІЛІПОВО. Адзін тутэйшы селянін, вельмі любіўшый музыку, аддаў сваю апошнюю карову за фонограф, каторы ўбачыў у вёсцы Мотулін. Цяпер у яго хаці кожын вечар чутна музыка вальца, але хлеў яго—пусты, а гаспадарка—без скаціны.

БОГРАНЫ, Оліцк. пав. Селянін Юрый Юргіс забіў на сьмерць сваю сястру. За гэта яго засудзілі на 8 гадоў у папраўчы вастрог. За фальшывае сьведчэньне пад прысягай на гэтым судзе селянін Сіленскі засуджэн на 1 год у вастрог.

КОЎНА. Расейскі салдат, узяты пад Рыгай у палон, пэслан, як ваенна-палонны, на работу пад Коўну у двор, дзе жывуць яго жонка і дзеці, ня меўшые аб ім ніякіх вестак бліска тры гады.

# II. Гістарычные і ваяцкіе песьні.

(Гл. «Гоман» № 66—82).

## 1) Гістарычные.

### Пра татарскі пастой.

У чыстым полі бяроза стаяла,
На бярозі зязюля кавала.
Годзі, годзі зязюля каваці,
Бо ўжо едуць татары бярозу рубаці.
Ты бяроза хілява-белява,
Чаму ў полі ты не вясёла?
Чаму бяроза суха не зялёна?
— Якжэ мне зялёнай быці?
Падамною татары стаялі,
Татары стаялі, гальля рубалі,
Гальля рубалі, карэнь выбіралі,
Крынічнай вады дабывалі,
Сваіх коней напавалі.

### Абарона Крычова.

Падымалісь чорны хмары,
Небо пакрывалі, —
Прыхадзілі злы татары,
Пад Крычовам сталі;
Запалілі стары Крычаў, —
Канцы запылалі...
Наш Івашка падымаўся,
Людзі ў рады сталі:
Палілася кроу, змешалась
С чорнаю зямлёю,
Злы татары падаліся
Уцекаць гурбою;
А Івашка гоніць, гоніць,
Голасна сьмяецца,
Што татарва уцекае,
Аж хахол трасецца!

### Пра бітву пад Оршай.

Ой ў нядзельку параненько
Узышло сонейко хмарненько,
Узышло сонейко над борам,
Панад сельскім таборам.
А ў таборы трубы граюць,
Да ваяцкае парады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршы дабываці:
А ці с поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
Ані с поля, ані з лесу,
Толькі з рэчкі невялічкі!
А ў нядзелю параненько
Сталі хлопцы-пятыгорцы
Каля рэчкі на прыгорцы;
Гучаць разам с самапалоў,
С сяміпядых ад запалоў;
Б'юць паўсоткаю з гарматаў...
Масква стала нарэкаці,
Место Воршу пакідаці;
А як з Воршы уцекалі
Рэчку невялічку праклінали:
„Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як наша слава прапала;
Бадай высыхала да скончэньня сьвету,
Што нашай славанькі ўжо нету".
Слава Воршы ўжо ня горша,
Слаўся пан Астрожскі!

## 2) Ваяцкіе песьні.

### Сын Сокал.

Спарадзіла маці сына Сокала,
Спарадзіўшы, узрасціўшы,
У войско дала.
Старша сястрыца кашулі дае,
Серадольша хустку качае,
Менша сястрыца брата пытае:
„Калі ты, брацейка, ў госьці прыбудзеш?"
—„Выйдзеш, сястрыца, на круту гору,
Глянеш, сястрыца, на ясну зору;
Як белы камень на верх усплыве,
Лебяжэ пяро на дно патане,
Тады я, сястрыца, ў госьці прыбуду".

РЫГА. Найстаршэйые аддзелы рыжскай местовай кніжні ўзяты с кляшторных бібліотэк з Вільні і Гродні. На некаторых кнігах надпісы паказваюць, што яны ўзяты з езуіцкай кніжні ў Вільні, а на аднэй—з домініканскаго кляштара у Гродні.

ГОЛЬДІНГЭН. Тут заседае рада прэдстаўнікоў парахвій. Заседаньня адкрыты урочыстым набажэнствам, адпраўленым курляндзкім лютэранскім супэрінтэндэнтам, Бэрнэвіцам, каторы ў казаньні сваім успамінаў аб утварэньні Краёвай Рады Курляндзіі і гаварыў аб новай будучыне краю.

КАНДАЎ, Тальсэнск. пав. Најміт Адольф Віцкэ, 24 гадоў, уламаўся у два сьвірны і украў стуль жыта і адзежу. Ня гледзячы на пагоню, яго дагэтуль не ўдалося злавіць.

# Офіцыяльны аддзел.

## Апавешчэньне.

П. Глаўнакамандуючый 10 арміей за мінулый месяц налажыў на ніжэйпісаные грамады этапнай тэрыторыі гэткую контрыбуцію:

1) на грамаду Маляты—за тое, што у апошнім часі тамака былі частые пажары ад падпалу, і вінавайцоў нельга было выкрыць, а так сама за тое, што пажароў можна было-б усьцерагчыся, калі-б грамадзяне гладзелі, як належыць, — 3.000 м.

2) на грамаду Сіткуны, Іоганішкельскаго пав., за тое, што грамадзяне ведалі аб бытнасьці ў іх вёсцы праз два гады расейскіх ваенных, памагалі ім у гэтым і не данясьлі ў належны урад — 640 м.

3) на грамаду Гута, Оліцкаго пав., за тое, што грамадзяне ў часі лясного пажару адмовіліся памагчы тушыць яго, хаця іх клікалі старшына і лясная старожа — 272 м.

4) на грамаду Падворнікі, паневежскаго пав., за тое, што грамадзяне ведалі аб бытнасьці у іх вёсцы ўцёкшых расейскіх ваенна-палонных ад месяца студня 1917 году, аднак не паведамілі аб гэтым належнаго ураду, — 112 м.

5) на грамаду Паполёты, паневежскаго пав., за тое, што грамадзяне, ведаючы аб бытнасьці ў іх вёсцы ўцёкшаго расейскаго ваенна-палоннаго, не данясьлі аб гэтым той-час нямецкай уласьці, ды, наадварот, укрывалі яго ад лістапада 1916 году, — 272 м.

Е. Н. О. 2 кастрычніка 1917.

Der Etappen-Inspekteur
v. Trotta,
Generalleutnant.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

РОТТЭРДАМ. Пецярбурская рада раб. і салд. выбрала новы спаўніцельны камітэт, зложэны с 13 большэвікоў, 6 соцыял-рэволюцыонероў і 3 меньшэвікоў.

„Речъ“ пішэ, што место Лайшэв (?), у 60 верстах ад Казані, згарэло. У падпале народ абвінаваціў памешчэных там аўстрыйскіх ваенна - палонных, каторых многа забілі. Ашалеўшая грамада народу здзекавалася над трупамі нешчасьлівых.

ШТОКГОЛЬМ. „Речъ“ пішэ, што па апошнім заседаньні пецярб. рады раб. і салд. прыбыўшый с фронту афіцэр Дубасов заявіў, што салдаты цяпер нават не дабіваюцца зямлі і волі, а жадаюць адно канца вайны. Салдаты становуча адмаўляюцца далей ваеваць.

ЦЮРЫХ. Казакі праз свайго дэпутатата падалі Керэнскаму пратэст проці апавешчэньня ў Расеі рэспублікі, бо гэта—захват правоў установучаго сэйму. Казакі трэбуюць устанаўленьня ў Расеі фэдэрацыйнаго ладу, але гэта павінен апавесьціць установучы сэйм.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Пад маршалкоўствам Керэнскаго і пры міністрах заграні чных спраў, ваенным і марскім, начальніку генэральнаго штабу і расейскім пасьле у Франціі, Маклакове, пачаліся нарады, як вярнуць здольнасць да далейшай вайны расейскай арміі. Прыната гэткая рэзолюція: паварот дысцыпліны і акуратнае наладжэньне ўнутрэнай службы. Другая справа, каторай занялася нарада, гэта справа селянскіх разрухоў, каторые пастаноўлено тушыць самымі вострымі спосабамі, не затрымліваючыся перад ужыткам ваеннай сілы.

ШТОКГОЛЬМ. Як даносяць расейскіе газэты, глаўную расейскую кватэру цэўне з Магілёва перэнясуць у іншае место і перастрояць яе нанова. Падарожа ў Магілёў Керэнскаго і міністроў заграні чных спраў і марского звязана з гэтым пытаньнем.

ЦЮРЫХ. Украінскае бюро прэссы даносіць с Пэцярбурга:

На дэмократычнай конфэрэнціі украінскіе дэлегаты трэбавалі выдаленьня з міністэрства і пачатку той-час мірных перэгавораў.

У падгатавіцельным парлямэнці 120 мейсц, прыпадаючых для буржуазіі, раздзелены гэтак: кадэты—64, таргова-прамышленая партыя—34, камітэт маскоўскіх палітыкоў—15, землеўласьнікі—7.

Падгатавіцельны парлямэнт пачне заседаць толькі пасьля выбароў гэтых 120 членаў.



Выйшла сястрыца, выйшла родна на
круту гору,
Глянула сястрыца на ясну зору,
Аж полем ідуць два казачэнькі:
„Вы казачэнькі, мае брацейкі,
Ці не бачылі брата Сокала?“
—„Ці ня то твой брацейка быў,
Што тры разы войско збіў,
На чацьвёртым галоўку скланіў?
Конікі іржаць яго вязучы,
Зямліца стогне яго дзяржучы,
Зязюля куе за ім летучы,
Вароны крачуць ў вочкі гледзючи“.

### Васіль і Марыля.

Ой, паехай Васілька на ваеваньне,
А пакінуў Марыльку-жану
На налагаваньне.
Судзілося Васільку
Ў маці начаваці,
І сьніўся Васільку
Сон дзіўнюсенькі:
Што сярод двара
Яблань зацьвіла,
А, зацьвіўшы, сама завяла.
„Ой, маці, мая маці!
Сьніўся мне сон дзіўненькі,
Што сярод двара
Яблонь зацьвіла,
А, зацьвіўшы, сама завяла“.
—„Ой, сыну, мой сыну,
Што наймілейшы,
Вібірай конікі,
Што найсільнейшы!
Ды бяжы, Васілька,
І ў дзень, і ў ночы
Сваей Марыльцы
Закрыці вочы.
Ой, прыехаў Васілька
Перад вароце:
„Выйдзі, выйдзі Марылька,
У шчырым злоце!“
Ой, ня вышла Марылька.
Вышла старша сьвесць
Ды сказала Васільку
Ня любую весць:
„Любіў, любіў, Васілька,
Ды ўжо і німа!
Ой, учора са вячора
Сына прывела“
А цяперсі параненьку
Сама памерла“.
Ой, прыехаў Васілька,
Перад акенцо:
„Выйдзі, выйдзі Марылька,
Як яснае сонцо!“
Ой, ня вышла Марылька,
Выйшла серадольша сьвесць,
Ды сказала Васільку
Ня любую весць:
„Любіў, любіў Васілька,
Ды ўжо і німа!
Ой, учора со вячора
Сына прывела.
А цяперсі параненьку
Сама памерла!“
Ой, выехаў Васілька
Перад парога:
„Выйдзі, выйдзі Марылька,
Як ясная зора!“
Ой, ня вышла Марылька,
Вышла менша сьвесць
Ды сказала Васільку,
Ня любую весць:
„Любіў, любіў Васілька,
Ды ўжо і німа!
Ой, учора со вячора
Сына прывела,
А цяпера параненьку
Сама памерла!“—
Ой прыехаў Васілька
Да новаго двару,
А у новым дворы
Нянькі і мамкі
Калышуць малое:
„Ой люлі, люлі, малое дзіця!
Учора со вячора
Маці прывела,
А сягоньня параненьку
Сама памерла!“

ШТОКГОЛЬМ. Падгатавіцельны парлямэнт будзе складацца с 555 членаў, у тым ліку 388 прэдстаўнікоў дэмократіі і 167 -- буржуазіі. Першае заседаньне будзе 18 кастрычніка.

Урад забараніў ехаць у Маскву ўсім, хто не жыве там пастаянна.

ПЕЦЯРБУРГ. Міністэрство народнай прасьветы пастанавіло зачыніць у Пецярбурзі вышэйшые школы да канца году.

Па загаду ваеннаго міністра звальняюцца з арміі салдаты, паступіўшые ў армію, як рэкруты, ў 1895 і 1896 г.г.

БАЗЭЛЬ. „Нов. Вр.“ пішэ, што расейскі міністэр жалезных дарог заявіў, што ўвесь прыватны рух с прычыны недастачы апалу павінен спыніцца да канца вайны. Іначэй нельга будзе падвазіць патрэбнаго для арміі.

БАКУ. Агульная забастоўка ў газавых промыслах трывае далей. Забастоўшчыкі закрылі тэатры і кавярні.

КОПЭНГАГА. Рэзультаты выбароў у фінляндзкі сэйм: соцыалдэмократы—92, буржуазны блок—64, партыя землеробаў—26, шведзкая—18, лапландзец—1.

## З усяго сьвету.

ЛОНДОН. (В.Т.Б. Рэўтэр). У Лівэрпулі Асквіт у сваей прамові між іншым сказаў:

Я пераконан, што ў Нямеччыне пануе чэснае жаданьне міра, і не сумлеваюся, што гэтак-жэ глядзіць і Аўстрыя.

МЮНХЭН. Баварскі міністэрпрэзыдэнт граф Гэртлінг сказаў у Баварскім сэйме, што чуткі, быццым Нямеччына пачала ўжо мірные перэгаворы са сваімі ворагамі, зусім фальшывые.

РЫМ. Пытаньне аб міры сёлета закончэно. Оптымістычны пагляд на гэту справу Ватыкану змяніўся. Усё яшчэ ждуць адказу саюзьнікоў на ноту Папежа, але справа сёлета да ўдачнаго канца ня дойдзе. Новая ваенная зіма — гэта катастрофа для ўсіх народаў, але ніхто ня хочэ першы палажыць меч.

ЦЮРЫХ. «Corr. d. Sera» даносіць з Рыму:

Урад заявіць у парлямэнці, што ён не раней палажыць аружжэ, ажно пакуль саюзьнікі ня дойдуць спаўненьня сваіх ваенных мэт.

ЦЮРЫХ. Рэволюцыонеры ўзарвалі глаўны вагзал у Турыне і падпалілі суседніе гасьцініцы. У Генуі падпалены караблі. Наагул, Італія шмат напамінае цяпер Расею.

У парлямэнці баяцца злучэньня староннікоў Джіолітті, соцыалістоў і каталікоў.

ЛЮГАНО. У звязі са справай страваваньня ўвесь урад места Турына падаўся у адставку.

БОРДО. Соцыалістычны конгрэсс прыняў рэзолюцію Рэнодэлі, каторая трэбуе выдачы пашпартоў у Штокгольм і перэгляду ваенных мэт.

ЛОНДОН. „Morning Post“ пішэ: Цяперашні рух у Ірляндзіі—больш небаспечны, чым на каляды 1916 году. Сін-фэйнэры асьмеліваюцца ладзіць нават прыхільные для немцоў дэмонстраціі.

СОФІЯ. (В.Т.Б.) Сюды прыехаў нямецкі Імператар.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**12. X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Учора у Фляндрыі агонь ізноў шмат узмацаваўся і сягоньня раніцай абярнуўся ў барабанны, а пасьля узняліся новые штурмы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пад Суассонам, на усходзі ад Маасу і пры Воксэйён — артыллерыйская бітва і наступленьня французаў, каторые адбіты.

**Усходні тэатр:**

На паўночным усходзі ад Рыгі і на Збручу — жывейшая баевая чыннасць. Мы ўзялі многа палонных.

**13. X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Гэтым разам англічане пачалі баталію у Фляндрыі на вузкім фронці 10 кіл. між дарогамі Лянгмарк-Гутгольцт і Зонэбэк - Морслейт. Пасьля чысьленых штурмоў англіцкай пяхоці ўдалося пасунуцца ўпярод між станціей і вёскай Пэлькапэль. У страшэнных бітвах, трываўшых увесь дзень, нашы войскі адкінулі ворагоў назад наабапол Пэнсбэк. Усе ўдачы ворагоў, купленые цяжкімі крывавымі стратамі, абмежываюцца двума вузкімі адрэзкамі каля паловы кіл. у глыб. На ўсіх іншых мейсцах усе стараньня іх былі дарэмны.—У начы артылерыйская бітва трывала далей, і сягоньня раніцай агонь абярнуўся ізноў у барабанны.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* У усходняй часьці Шмэн дэ Дам мы ўварваліся на французскіе пазыціі на поўначы ад Воклер на шырыні 400 мэтроў і здабылі некалькі ліній акопаў с чысьленымі палоннымі.

**Усходні тэатр:**

Ад Дзьвіны да Дунаю без вялікшых бітв.

**14. X. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Баталія у Фляндрыі далей не узнімалася. Над морам і ад лесу Гутгольцт да Гэлювэльт — сільны агонь. Сільные англіцкіе і французскіе дружыны ў некаторых пунктах наступалі, але былі адбіты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Проці здабытых намі ўчора французскіх пазыцій пры Воклер французы вялі пяць сільных контратак, адбітых з вялікімі стратамі.

**Усходні тэатр:**

Паводлуг намечэнаго пляну і пры супольнай чыннасьці арміі і флоту мы пачалі опэраціі проці крэпка ўмацаванаго расейскаго острава Эзэля. Вылавіўшы з вады міны, мы 12 кастрычніка пачалі абстрэліваць форты на полуострове Сворбэ, пры Кількондзі, ў затоцы Тага і ў зундзе Сэлё. Прымусіўшы змоўкнуць расейскіе батарэі, мы высадзілі сваё войско. Пры гэтай опэраціі мы не утрацілі ніводнаго карабля. Зышоўшае на бераг у затоцы Тага войско зламало расейскі апор і йдзе на палудзенны ўсход. Сэрэль, на полуострові Сворбэ, і сталіца Эзэлю, Арэнсбург, гарацъ.

---

Між Балтыцкім і Чорным морам — без перамен.

---

### КАЛЯ ВАЙНЫ.

СОФІЯ. 14.X. Сягоньня мінулі два гады ад дня выступленьня Боўгарыі ў сусьветнай вайне. Бытнасць нямецкаго імператара ў боўгарскай сталіцы ешчэ павялічыла урочыстасць гэтаго дня.

ЛОНДОН. «Daily Telegr.» пішэ:

Ў пачатку падводнай вайны прыватны гандэль карыстаў с 1.500 вялікіх параходаў. З гэтаго затоплены наагул 584. Найвялікшые цяжары—яшчэ перад намі. Аб помачы Амэрыкі мы не павінны думаць оптымістычна.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ў Атлянтыцкім акіані затапілі ізноў некалькі параходаў, у тым ліку 4.500 тонн пшаніцы, 6.750 тонн вугальля і 4.000 тонн салетры.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак навакол Англіі: 21.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Наш лятучы флот атакаваў расейскіе ваенные будоўлі на Ліфляндзкім узбярэжжы і на астравох Рыжскай затокі. Мы скінулі некалькі тысяч кілогр. бомб і вярнуліся без ніякіх страт.



**Друкавана у друкарні М. Кухты.** **Выдавецтво «Гоман».** **Редактар Язэп Салавей.**